# СВАБОДА

№ 1—2 люты 1993

Кошт 3 рублі




## Беларускія грошы друкуюцца ў Мюнхэне

**З інфармаваных крыніцаў у Нацыянальным банку Беларусі СВАБОДЗЕ стала вядома, што «нямецкая фірма, якая знаходзіцца ў Мюнхэне, распачала друкаваньне беларускай нацыянальнай валюты, і адзін намінал грошай ужо надрукаваны».**

Кантракт, кошт якога, па непацьверджаных зьвестках, перавышае 5 млн. даляраў, быў падпісаны ў жніўні 1992 г. падчас візыту ў Мюнхэн высокапастаўленых чыноўнікаў Саўміна і Нацыянальнага банка.

Узоры купюраў распрацавала створаная Нацыянальным банкам група менскіх мастакоў. На банкнотах, памер якіх прыкладна супадае зь нямецкай маркай, з аднаго боку — выявы Скарыны, Купалы, Коласа, Цёткі.., а на адваротным — помнікі архітэктуры Беларусі.

Узоры банкнотаў, па нашых зьвестках, былі зацьверджаны Прэзыдыюмам ВС на закрытым паседжаньні яшчэ на пачатку лета 1992 г. Тады ж была зацьверджаная і назва беларускай грашовай адзінкі — РУБЕЛЬ. Прапанову дэпутата Н.Гілевіча наконт ТАЛЕРА не падтрымаў ні адзін з прысутных членаў Прэзыдыюму. «К рублю все привыкли», — такі быў галоўны аргумэнт.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**


*(Працяг тэмы на 5-й стар.)*





*Мал. Сяргея ХАРЭЎСКАГА*

## Куды ідзе валюта?

Упершыню Савет Міністраў, пасьля настойлівых патрабаваньняў дэпутатаў, вымушаны быў прадставіць на зацьверджаньне Вярхоўнаму Савету падрабязны плян выкарыстаньня Дзяржаўнага валютнага фонду ў 1993 г., а гэта — 180 млн. даляраў.

**Выкарыстаць іх прапануецца наступным чынам (усе сумы ў далярах):**

**— унёскі ў міжнародныя фінансавыя арганізацыі — 5 млн. (2,8%);**

**— унёскі ў арганізацыі ААН — 15 млн. (8,3%);**

**— утрыманьне беларускіх пасольстваў за мяжой — 7 млн. (3,9%);**

**— на замежныя камандзіроўкі ВС і СМ — 3 млн. (1,7%);**

**— закуп мэдыкамэнтаў і харчовых тавараў — 50 млн. (27,8%);**

**— на выплаты па крэдытах — 90 млн. (50%);**

**— рэзэрвы на неадкладныя патрэбы — 10 млн. (5,5%), у тым ліку, 4,7 млн. на закуп абсталяваньня для вырабу беларускіх пашпартоў.**

**Цікава, што Беларусі даводзіцца рабіць унёскі ня толькі ў асноўны бюджэт ААН, але (як і ўсім сябрам гэтай арганізацыі) удзельнічаць у фінансаваньні канкрэтных праграмаў ААН. Сёлета, напрыклад, нам давядзецца ўнесьці 500 тыс. на ўтрыманьне часовых сілаў ААН у Ліване і 780 тыс. — у Югаславіі, на місіі назіральнікаў ААН у іраках-кувэйцкім канфлікце — 210 тыс., на кантрольную місію ў Анголі — 280 тыс., і нават на місію ААН па правядзеньні рэфэрэндуму ў Заходняй Сахары — 460 тыс. Удзел Беларусі ў UNESCO абыходзіцца нам у 1,2 млн., у Міжнароднай арганізацыі працы — 800 тыс., у МАГАТЭ — 540 тыс.**

**На ўтрыманьне пасольстваў і прадстаўніцтваў Беларусі за мяжой плянуецца выдаткаваць 7 млн. У прыватнасьці, Пастаяннаму прадстаўніцтву пры ААН — 300 тыс., пасольствам: у Францыі — 500 тыс., у Аўстрыі — 400 тыс., Швэйцарыі — 500 тыс., у ЗША — 620 тыс., у Нямеччыне — 640 тыс., у Бэльгіі — 600 тыс., у Ізраілі — 500 тыс., у Кітаі — 700 тыс., у Польшчы — 200 тыс., у Латвіі — 70 тыс., у Летуве — 60 тыс. Генконсульствам: у Эстоніі — 20 тыс., у Гданьску — 40 тыс., у Балгарыі — 20 тыс.**

**Карацей кажучы, сродкаў Дзяржаўнага валютнага фонду хапае толькі на самыя-самыя неадкладныя патрэбы. Але гэта далёка ня ўся валюта, якую мае ўрад. Саўмін яшчэ бярэ на Захадзе крэдыты: у Нямеччыне — 550 млн., у ЗША — 24 млн., у Камісіі Эўрапейскага Эканамічнага Супольніцтва — 140 млн., у Эўрапейскага Банка Рэканструкцыі і Развіцьця — 39 млн. Па гэтых крэдытах ужо даводзіцца плаціць немалыя працэнты, але як яны выкарыстоўваюцца — пакуль загадка.**

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**


ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Рэдактар **Ігар ГЕРМЯНЧУК**
Выдавец **Павал ЖУК**

АДРАС ДЛЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ: **220029, Менск, вул.М.Багдановіча, 7а**




Генадзь Данілаў (Начальнік саўмінаўскага Упраўленьня грамадзкай бясьпекі і абароны) выступае ў судзе Цэнтральнага раёна Менска ў "абарону свайго гонару і годнасьці".


*(Чытайце матар'ял на 7-й стар.)*


## Удакладненьне

Рэдакцыя СВАБОДЫ інфармуе, што ў нашай газэце (1, 1992 г.) са спасылкай на гарадзенскую газэту «Перспектива» было паведамлена, што «старшыня Гарадзенскага абласнога Савету Д.Арцыменя будуе ў Польшчы пад Беластокам вялікі дом».

На самой справе ў газэце «Перспектива» была апублікавана фраза наступнага зьместу: «На вопрос, строит ли Д.Арцименя дом на территории Польши возле г.Беластока, был дан отрицательный ответ».

Прыносім грамадзяніну Арцыменю прабачэньне за недакладна перададзеную інфармацыю, якая закранула ягоны гонар.

# ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА НА БЕЛАРУСІ: ПУНКТ ГЛЕДЖАНЬНЯ ВАШЫНГТОНА

**«У шэрагу краін былога Савецкага Саюзу працэс дэмакратызацыі практычна спыніўся, у прыватнасьці пад уплывам кіраўнікоў, што засталіся ад ранейшых рэжымаў», — адзначаецца ў Гадавым дакладзе аб правох чалавека за 1992 г., падрыхтаваным Дзяржпэпартамэнтам ЗША.**

**Дзяржпэпартамэнт прадстаўляе такія штогадовыя даклады сваіму Кангрэсу ўжо на працягу 17 гадоў. У іх разглядаецца становішча з правамі чалавека практычна ва ўсіх краінах сьвету. Рэспубліка Беларусь выглядае сярод іх далёка ня самым лепшым чынам.**

**Мы лічым важным пазнаёміць беларускую грамадзкасьць з ацэнкамі Вашынгтона, таму ніжэй друкуем цалкам (за выключэньнем прадмовы) тую частку даклада Дзяржпэпартамэнта ЗША, дзе аналізуецца становішча на Беларусі.**

## РАЗЬДЗЕЛ 1.

### Павага да недатыкальнасьці асобы, у тым ліку:

**а) Палітычныя і іншыя забойствы без суда і сьледзтва.**

Няма фактаў, якія б пацьвердзілі, што такія забойствы адбыліся.

**б) Зьнікненьні.**

Няма паведамленьняў пра выкраданьні, зьнікненьні, патаемныя арышты або затрыманьні.

**в) Катаваньні або іншыя жорсткія, бесчалавечныя ці прыніжальныя мэтады абыходжаньня або пакараньня.**

Цяперашняя Беларуская Канстытуцыя забясьпечвае непарушнасьць асобы, але ня ўтрымлівае выразнай забароны катаваньняў ды іншых прыніжальных формаў пакараньня. Ёсьць паведамленьні пра зьбіваньні зьняволеных у турмах і мейсцах папярэдняга зьняволеньня. Выкарыстаньне фізычнае сілы супраць вязьняў у пэўных выпадках мае афіцыйную санкцыю, напрыклад, калі вязьні наносяць шкоду ці пагражаюць нанесьці шкоду іншым вязьням ці пэрсаналу турмы. Урад сьцьвярджае, што ён вядзе статыстыку і сочыць за ўжываньнем сілы пэрсаналам турмаў. Турэмнае начальства абавязанае дакладваць аб кожным такім інцыдэнце Генэральнаму пракурору. Патрабуецца таксама і мэдычны агляд вязьня ў такіх выпадках. Праект новае Канстытуцыі выразна забараняе катаваньні і жорсткія і нязвыклыя формы пакараньняў.

Паступіла шмат паведамленьняў пра неадпаведнасьць турэмных умоваў і прыніжальнае абыходжаньне зь вязьнямі. У аршанскай турме вязьні скардзіліся на перапоўненасьць (там утрымліваецца ў тры разы больш людзей, чым належыць) і на адмовы зьмяшчаць у шпіталь паважна хворых. Падобныя ж праблемы існуюць і ў турме №15 у Горадні, адкуль паступілі зьвесткі пра сур'ёзныя ўспышкі тубэркулёзу. Улады тлумачаць такія турэмныя ўмовы бракам памяшканьняў, папаўненьнем турмаў з боку вязьняў, што вяртаюцца на Беларусь з Расеі ды Украіны, састарэласьцю будынкаў і супрацівам мясцовага насельніцтва будаваньню новых турмаў.

У 1992 г. на Беларусі, як раней і ўва ўсім Савецкім Саюзе, захавала сваю вастрыню праблема жорсткага абыходжаньня з вайсковымі прызыўнікамі.

**г) Адвольныя арышты, затрыманьні ці высылкі.**

Крымінальныя працэдуры засталіся практычна тыя ж самыя, што і ў былым СССР. Асобу можна затрымаць адвольна і бяз санкцыі на арышт. Крымінальны кодэкс, аднак, патрабуе, каб затрыманага адпусьцілі на волю, калі на працягу 72 гадзін супраць яго ня вылучана абвінавачаньне. Пасьля вылучэньня абвінавачаньня арыштаваны можа правесьці ў турме шмат месяцаў, чакаючы судовага працэсу. На просьбу пракурора, затрыманы можа правесьці ў мейсцах папярэдняга зьняволеньня да 3-х месяцаў. Гэты пэрыяд можа быць нават падоўжаны на просьбу абласнога або рэспубліканскага пракурора да 1,5 года. Да паловы ўсіх асобаў, затрыманых за паважныя злачынствы, на пэўным этапе ўтрымліваюцца ў мейсцах папярэдняга зьняволеньня. Адвакат можа наведваць затрыманых без абмежаваньняў, хоць былі паведамленьні, што некаторыя затрыманыя мелі з гэтым цяжкасьці. У законах не прадугледжаныя такія формы, як вызваленьне да суда або пад заклад. Затрыманыя ня маюць права ліставацца або сустракацца з роднымі без дазволу пракурора.

**д) Адмова ў праве на справядлівы публічны суд.**

Судовая сыстэма Беларусі, у якой шмат захавалася з савецкае сыстэмы, мае тры ўзроўні: раённы, гарадзкі або абласны і рэспубліканскі. Вышэйшыя суды выконваюць функцыю апэляцыйных судоў, але могуць разглядаць справы і ў першай інстанцыі. Маючы неадэкватнае ўяўленьне пра ролю незалежнага суда, некаторыя судзьдзі ўсё яшчэ паддаюцца ўплывам з боку палітычнага кіраўніцтва.

Судовыя разгляды звычайна адкрытыя для публікі, хоць часам праводзяцца і закрытыя слуханьні, калі справа датычыць нацыянальнае бясьпекі. На практыцы, аднак, наведваньне адкрытых паседжаньняў можа быць адвольна абмежаванае. Напрыклад, у чэрвені адбыўся судовы працэс над народным дэпутатам Яўгенам Новікавым, якога абвінавачвалі ў паклёпе. Ёсьць вартыя даверу зьвесткі, што дэпутатам ад Апазыцыі і журналістам не дазволілі прысутнічаць у залі суда.

Падсудныя маюць права наведваць судовыя паседжаньні, мець вочныя стаўкі са сьведкамі і даваць паказаньні. Суд прызначае адваката для тых падсудных, хто яго ня мае. Былі паведамленьні, што некаторыя падсудныя мелі цяжкасьці з доступам да адвакатаў і судовых матар'ялаў. Хоць тэхнічна цяжар доказаў ляжыць на пракуратуры, прэзумпцыя невінаватасьці не заўсёды строга захоўваецца.

У 1992 г. не паступілі паведамленьні пра тое, што ў беларускіх турмах утрымліваюцца палітвязьні.

**е) Адвольнае ўмяшаньне ў прыватнае жыцьцё, сям'ю, дом ці ліставаньне.**

Згодна з паведамленьнямі, нягледзячы на спробы ўрада рэфармаваць КДБ, электроннае праслухоўваньне памяшканьняў і тэлефонаў працягвалася. Паводле закона патрабуецца дазвол пракурора для ўсталяваньня падслухоўнай прылады. Апрача выпадкаў перасьледу, для ўваходу ў прыватнае жытло неабходны ордэр наператрус.

## РАЗЬДЗЕЛ 2.

### Павага да грамадзянскіх свабодаў, у тым ліку:

**а) Свабода слова і друку.**

Хаця свабода друку забясьпечваецца існым заканадаўствам, на практыцы яна захоўваецца ня цалкам. Паводле наяўных зьвестак, урад рабіў спробы выкарыстаць законы пра паклёп, каб згасіць непажаданую крытыку ўрадавых дзеяньняў. Штомесячная апазыцыйная газэта «Свабода» неаднаразова падвяргалася судоваму перасьледу. Яе абвінавацілі ў паклёпе і аштрафавалі за публікацыю матар'ялаў з крытыкай афіцыйных асобаў. Незалежная газэта з Горадні таксама была прыцягнутая да суда і прайграла аналягічны працэс. Суд над народным дэпутатам Новікавым таксама дэманструе магчымае жаданьне афіцыйных структураў абмежаваць крытыку ўрада.

Выкарыстаньне ўрадам законаў аб паклёпе падаецца спробай заахвоціць самацэнзуру.

Журналісты, якія не працуюць у невялікіх незалежных выданьнях (або расейскіх газэтах) адчулі на сабе ціск абмежаваць ці зьмякчыць матар'ялы з крытыкай ураду. Урадавае інфармацыйнае ведамства праводзіла штотыднёвыя сустрэчы з рэдактарамі газэт, што атрымліваюць дзяржаўныя датацыі, на якіх абмяркоўваўся зьмест і рэдакцыйная палітыка.

У 1992 г. газэты з найбуйнейшымі накладамі адчувалі фінансавыя цяжкасьці, зьвязаныя з рэформай цэнаў. Пяць такіх газэтаў зьвярнуліся да ўраду па дадатковую фінансавую дапамогу. Урад адгукнуўся на гэты зварот і стаў іхным галоўным фундатарам, што дало яму магчымасьць выказвацца «за» або «супраць» таго ці іншага матар'яла.

Як паведамляецца, прэм'ер-міністр Кебіч заявіў, што намерваецца аказваць фінансавую дапамогу ўсёй прэсе, апрача апазыцыйных ураду выданьняў. Старшыня Вярхоўнага Савету Шушкевіч выказаў незадавальненьне з нагоды такога стану рэчаў і выступіў супраць манапалізацыі прэсы ў руках ураду. Апазыцыя БНФ прапанавала законапраект, які б забараняў ураду кантраляваць болей за адну газэту. Тым часам Міністэрства інфармацыі распрацавала праект заканадаўчага акта, які б дазволіў падкантрольнай ураду прэсе — але не незалежным выдаўцам газэтаў — атрымаць значныя падаткавыя ільготы.

Амаль усе радыё- і тэлестанцыі зьяўляюцца ўласнасьцю дзяржавы (апрача кабельных станцыяў, якія зазвычай не перадаюць праграм навінаў і залежаць ад дзяржаўнага абсталяваньня). На працягу года ўзмацняліся тэндэнцыі да больш спрыяльнага для ўрада асьвятленьня навінаў. Звычайна ў перадачах пазьбягалі вострай крытыкі ўрада і яго кіраўніцтва. Беларусы па-ранейшаму прымалі тэлевізійныя і радыёперадачы з Расейскае Фэдэрацыі, у тым ліку тэлестанцыю Астанкіна з Масквы. Нядаўна Нацыянальная тэлерадыёкампанія Беларусі адмовіла Апазыцыі БНФ (разам зь іншымі арганізацыямі) у атрыманьні эфірнага часу для выказваньня сваіх поглядаў. Афіцыйна адмова тлумачылася тым, што, калі б кампанія дала эфірны час Народнаму Фронту, яна б была вымушаная даць яго і ўсім іншым палітычным партыям. Аднак гэта выглядае як спроба з боку ўрада ня даць эфірнага часу асноўнай апазыцыйнай сіле.

**б) Свабода мірных сходаў і асацыяцый.**

Дэманстрацыі ўсё яшчэ рэглямэнтуюцца старым савецкім законам, які вымагае, каб за 10 дзён да іх правядзеньня арганізатары падалі заяву ў мясцовыя органы ўлады. У 1992 г. не паступала паведамленьняў аб адмове дазволу ладжаньня дэманстрацыяў. Дэманстрацыі грамадзянаў адбываліся часта. І Апазыцыя БНФ, і пракамуністычная апазыцыя часта выкарыстоўваюць галоўны пляц Менска для дэманстрацыі сваёй нязгоды з урадам.

**в) Свабода веравызнаньняў.**

На Беларусі паважаецца свабода веравызнаньняў. У сьнежні Вярхоўны Савет прыняў адпаведны закон, які прадугледжвае шырокія гарантыі гэтай свабоды. Рэлігійным арганізацыям дазволена займацца культурнай, адукацыйнай і дабрачыннай дзейнасьцю. Аднак захавалася яшчэ й бюракратычная антыпатыя да рэлігіі ўвогуле і да галоўных канфэсіяў ды да габрэйскае грамады ў прыватнасьці.

На Беларусі няма дзяржаўнае рэлігіі, але пераважная большасьць беларусаў — гэта праваслаўныя хрысьціяне, і верасьнёўскія сьвяткаваньні тысячагодзьдзя праваслаўнага хрысьціянства на Беларусі атрымалі шырокую ўрадавую падтрымку. Праваслаўная царква на Беларусі застаецца афіцыйна зьвязаная з Расейскай праваслаўнай царквой і прызнае найвышэйшую ўладу маскоўскага патрыярха. Беларускія нацыяналы, напрыклад, з БНФ, востра крытыкавалі Царкву за надта шчыльныя сувязі з Масквой і за тое, што Царква мала робіць для служэньня нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Рыма-Каталіцкі Касьцёл на Беларусі лічыць блізу 1,5 млн. вызнаўцаў, г.зн. каля 15% насельніцтва. Дачыненьні паміж Касьцёлам і ўрадам напружаныя з прычыны гістарычнай сувязі Касьцёла з Польшчай, якая кіравала заходняй часткай Беларусі да 1939 г. Урад яшчэ афіцыйна не прызнаў арцыбіскупа Казімера Сьвёнтка кіраўніком Касьцёла на Беларусі пад тым прэтэкстам, што ён — беларус польскага паходжаньня. Урад абвінаваціў Сьвёнтка і польскіх сьвятароў у прапольскай агітацыі (у тым ліку і вывешваньні польскіх сьцягоў ды іншай сымболікі), а таксама ў мэтанакіраванай палітыцы палянізацыі заходніх рэгіёнаў Беларусі, дзе захоўваецца моцны польскі ўплыў. Па ўказаньні Сьвёнтка гэтая дзейнасьць была спыненая. Ксяндзы з Польшчы прыяжджалі ў рыма-каталіцкія парафіі на Беларусі, бо адзіная каталіцкая сэмінарыя ў Горадні ня можа задаволіць попыт на каталіцкіх сьвятароў на Беларусі. Урад прапанаваў некаторым ксяндзам пакінуць краіну ў сувязі зь дзеяньнямі, якія не адпавядаюць іх візаваму статусу, і заявіў, што Беларусь аддае перавагу каталіцкім місіянэрам зь любой іншай славянскай краіны, апрача Польшчы.

Беларусь усталявала дыпляматычныя адносіны з Ватыканам у лістападзе.

Зараз адбываецца працэс перадачы дзяржавай сканфіскаваных савецкай уладай культавых будынкаў Праваслаўнай Царкве і Каталіцкаму Касьцёлу. Гэты працэс прыводзіць да шматлікіх канфліктаў як паміж гэтымі канфэсіямі і дзяржавай, так і паміж самімі канфэсіямі. У канфлікты ўцягваюцца і арганізацыі, якія разьмешчаныя ў будынках, што некалі належалі рэлігійным установам. Як паведамляецца, мясцовыя ўлады звычайна аддаюць перавагу просьбам Праваслаўнай Царквы і менш прыхільна ставяцца да просьбаў Каталіцкага Касьцёлу.

У дадатак да вышэйпамянёных канфэсіяў, на Беларусі свабодна функцыянуюць 16 іншых рэлігійных сэктаў. Баптысты паведамляюць пра талерантнае стаўленьне да іх працы з боку ўраду. Напрыклад, менскія гарадзкія ўлады выдзелілі мясцовай баптысцкай царкве 8 гектараў зямлі для пабудовы дома састарэлых і мэдычнае ўстановы.

Габрэйская грамада, што засталася на Беларусі, мае карэктныя, калі не сказаць цёплыя, адносіны зь дзяржавай. Увага грамады засяроджаная на трох асноўных пытаньнях. Па-першае, гэта аднаўленьне будынкаў для сваіх патрэбаў, асабліва раней сканфіскаваных сынагогаў, ператвораных у тэатры, склады і залі. У адрозьненьне ад даўней сканфіскаваных хрысьціянскіх цэркваў, ніводная сынагога яшчэ не была вернутая габрэйскай грамадзе. Другая праблема — гэта будаўніцтва дома на старых габрэйскіх могілках у Пінску.

Пасьля міжнародных пратэстаў і націску ўрад нядаўна загадаў мясцовым уладам спыніць будаўніцтва на тым мейсцы. Трэцяе пытаньне — захаваньне жыцьцяздольнасьці габрэйскае грамады перад абліччам няспыннай хвалі эміграцыі ў Ізраіль, Заходнюю Эўропу і ў Злучаныя Штаты. Хоць абсалютная колькасьць габрэйскіх эмігрантаў з 1991 г. упала, але паток габрэйскіх эмігрантаў зь Беларусі ўсё яшчэ даволі моцны.

У 1992 г. Беларусь шмат разоў наведвалі замежныя эвангелісты і рэлігійныя лідары. На Беларусі актыўна дзейнічаюць місіянэры з розных краінаў. У свабодным продажы ёсьць Бібліі ды іншая рэлігійная літаратура на беларускай, расейскай і польскай мовах. Рэлігійныя сходы адбываліся на стадыёнах з афіцыйнага дазволу і бяз спробаў дзяржаўнага ўмяшаньня.

**г) Свабода перамяшчэньня ўнутры краіны, паездак за мяжу, эміграцыі ды рэпатрыяцыі.**

Беларускія грамадзяне маглі практычна свабодна рухацца ўнутры краіны. Усім дарослым усё яшчэ выдаюцца ўнутраныя пашпарты, якія служаць першасным пасьведчаньнем асобы і патрабуюцца пры падарожжах і рэгістрацыі ў гатэлях.

Права выбіраць мейсца жыхарства, хаця і гарантавалася законам, на практыцы было абмежаванае. Хоць сыстэма прапіскі і была афіцыйна скасаваная савецкім урадам у кастрычніку 1991 г., на Беларусі яна захавалася; згодна зь ёй, ад усіх беларускіх грамадзянаў афіцыйна патрабуецца рэгістраваць сваё мейсца жыхарства і забараняецца яго мяняць без афіцыйнага дазволу. Улады абмежавалі колькасьць дазволаў на пасяленьне ў Менску і пяці абласных цэнтрах. У 1992 г. Вярхоўны Савет перагледзеў сыстэму абавязковай прапіскі, і ў законапраекце, падрыхтаваным у Міністэстве ўнутраных справаў, прапануецца яе скасаваць.

МУС таксама вынес на разгляд Вярхоўнага Савету законапраект, у якім прадугледжаная лібэралізацыя працэдуры выезду за мяжу. Калі ён будзе прыняты, скасуецца абавязковая ўмова для выезду за мяжу — афіцыйны дазвол. Прапанаваны закон таксама зьменшыць колькасьць прафэсіяў, якія, паводле афіцыйнае клясыфікацыі, даюць доступ да «дзяржаўных таямніц». Згодна з новым законам, будучыя эмігранты, якім адмаўляюць у праве на выезд, грунтуючыся на артыкуле пра «дзяржаўныя таямніцы», будуць мець права падаць апэляцыю ў Савет Міністраў, а ў выпадку яшчэ адной адмовы, і ў Вярхоўны Суд. У выпадку адмовы Вярхоўным Судом, адмоўнікі могуць падаць паўторную апэляцыю праз 6 месяцаў і запатрабаваць новага разгляду справы. Гэтая справа ўжо ня будзе пад юрысдыкцыяй Міністэрства ўнутраных справаў. Новы закон, відавочна, ня зьменіць існы пяцігадовы тэрмін адмовы на выезд для людзей, што мелі «доступ да дзяржаўных таямніцаў». Відаць, Вярхоўны Савет прыме гэты закон у 1993 г.

Аднак падчас яго папярэдняга разгляду, былыя савецкія працэдуры былі захаваныя, у тым ліку абмежаваньне эміграцыі людзей, якія мелі доступ да

*(працяг на 7-й стар.)*

# ЯК НАС СУДЗІЛІ

У Маскве хутка пачнецца суд над удзельнікамі ГКЧП. А ў нашым Менску тым часам ідуць адваротныя працэсы: тыя службовыя асобы, якія, паводле заключэньня спэцыяльнай камісіі Вярхоўнага Савету, падтрымалі ГКЧП, ня толькі застаюцца ва ўрадавых крэслах, а нават спрабуюць засудзіць прэсу, якая называе іх «паплечнікамі» гэкачэпістаў. І нашыя выключна незалежныя народныя судзьдзі задавальняюць іхнія прэтэнзіі, ды яшчэ абавязваюць газэту заплаціць ім 100 тыс. рублёў «за нанесеныя маральныя страты». Так, як вы памятаеце, скончыўся суд грамадзяніна Г.Данілава з газэтай СВАБОДА. Аднак гэтым нашыя судовыя справы ня скончыліся.

## Устаць! Данілаў ідзе!

Генадзь Данілаў, які курыруе ў Саўміне праваахоўныя органы, мае рэпутацыю непатапляльнага чыноўніка, зь якім лепш не сварыцца. Таму мы, падаючы апэляцыю ў Менскі гарадзкі суд, асабліва не спадзяваліся, што там захочуць аб'ектыўна, у адпаведнасьці з законам разгледзець гэтую справу. І ўсё ж мы вырашылі пайсьці па судовых інстанцыях, каб пераканацца самім у «незалежнасьці» сфармаваных пры кампартыі судоў і пераканаць іншых, хто яшчэ мае на гэты конт нейкія ілюзіі.

Нас зьдзіўляе ня столькі сам факт тэндэнцыйнасьці суда, колькі ступень гэтай тэндэнцыйнасьці. Напрыклад, суд вынес рашэньне абвергнуць зьвесткі пра падтрымку Данілавым ГКЧП. Між іншым, гэты факт ёсьць у дакладзе часовай камісіі Вярхоўнага Савету, які мы прадставілі суду. Больш таго, калі б нават камісія ВС і памылілася, то згодна Закону «Аб друку», газэта «не нясе адказнасьці за распаўсюджваньне зьвестак, якія не адпавядаюць сапраўднасьці, калі гэтыя зьвесткі ўтрымліваліся ў афіцыйных паведамленьнях». Але насуперак гэтаму старшыня суда Цэнтральнага раёна сп.Турко разам з двума засядацелямі вынесьлі рашэньне: абвергнуць! А калегія гарадзкога суда, а потым і старшыня суда сп.Ардзяка адхілілі нашыя апэляцыі — усё, маўляў, законна. Во суды!

Яшчэ прыклад. У артыкуле згадваецца гісторыя пра былога дырэктара Камароўскага рынка Якалцэвіча, які ў 1981 г. быў асуджаны за хабарніцтва. І далей два сказы: «Паводле апэратыўнай інфармацыі, якая мелася ў праваахоўных органах, Якалцэвіч ня толькі сам браў у лапу, але й перадаваў наверх. А гандаль тады ў гарвыканкаме курыраваў Данілаў». Факт пацьвердзіўся: у судзе Данілаў прызнаў, што ён тады сапраўды курыраваў гандаль. Аднак зысковец настойваў на абвержаньні «намёкаў пра хабар». Суд прысудзіў абвергнуць «намёкі». Але ж згодна закону газэта нясе адказнасьць толькі за факты і зьвесткі, а не за «намёкі».

## Мы не ў Нью-Ёрку, мая дарагая!

У Амэрыцы гэта выглядала б інакш. Першая папраўка да амэрыканскай Канстытуцыі сьцьвярджае: «Кангрэс не павінен прымаць законаў, якія б абмяжоўвалі свабоду слова і друку...» Але ёсьць там і «Закон аб паклёпе», які час ад часу пераглядаецца Вярхоўным Судом ЗША з мэтаю знайсьці балянс паміж правамі асобы, з аднаго боку, і абаронай свабоды друку, з другога.

Дык вось, у 1964 г. суд пастанавіў, што публікуючы зьвесткі пра дзяржаўных службоўцаў, прэса мае права іх не даказваць. Калі ж нейкі чыноўнік Daniloff лічыць, што газэта ўзьвяла на яго паклёп, ён (а не газэта) павінен давесьці суду, што, па-першае, паведамленьне не адпавядае сапраўднасьці, а па-другое — яно зробленае «са злачынным намерам», г.зн. «з усьведамленьнем таго, што інфармацыя не адпавядае сапраўднасьці, альбо з абыякавым стаўленьнем да таго, сапраўдная яна, ці не».

Але ж мы не ў Амэрыцы. У нас і суд — народны, і заканадаўства — савецкае. І хоць яно не прадугледжвае адказнасьці за «намёкі», аднак усё адно судзяць. А наш Вярхоўны Суд нядаўна выдаў яшчэ і спэцыяльную пастанову, у якой падрабязна растлумачыў, як трэба судзіць, каб адбіць у прэсы ўсялякае жаданьне публікаваць нешта кепскае пра нашую родную намэнклятуру. Пастанавілі нават, што «комментарий к тексту судебного решения, который по содержанию оспаривает решение, не допускается»... Гэта значыць: сядзі і ня рыпайся! Газэта «Рэспубліка» днямі надрукавала гэтую пастанову Вярхоўнага Суда пад красамоўным загалоўкам «Каким судом судите, таким судимы будете».

Дарэчы, пасьля адмовы гарадзкога суда, мы падалі апэляцыю ў Вярхоўны Суд. Хутка адтуль павінен прыйсьці адказ. Які ён будзе — здагадацца ня цяжка.

А ў Генадзя Данілава зараз адзін клопат — выбіць 100 тысячаў. Але ў СВАБОДЫ няма ні свайго банкаўскага рахунка, ні памяшканьня, ні маёмасьці, якую можна было б сканфіскаваць. І таму ўчыняюцца розныя беззаконныя акцыі. Напрыклад, прыходзяць судовыя выканаўцы і апісваюць маёмасьць прыватнай фірмы, якая час ад часу аказвала спонсарскую падтрымку газэце. Спрабуюць нават зьняць для Данілава грошы з банкаўскага рахунка гэтай фірмы. Праваахоўным органам надта хочацца давесьці справу свайго саўмінаўскага куратара да поўнай перамогі.

А тым часам у нас пачаўся яшчэ адзін суд. Гэтым разам з газэтай СВАБОДА судзіцца генэрал міліцыі Мечыслаў Грыб — старшыня Камісіі ВС па нацыянальнай бясьпецы, абароне і барацьбе са злачыннасьцю. Ён лічыць, што ў артыкуле пра карупцыю ("Пятая калёна", А.Старыкевіч, СВАБОДА, №10—11, 1992) газэта абразіла ягоны «гонар і годнасьць як грамадзяніна, як народнага дэпутата».

**СВАБОДА**

***Вячаслаў Кебіч:*** *«Урад крэдытуе газэты і часопісы, якія стаяць на правільных пазыцыях. Навошта крэдытаваць газэту, якая спрабуе парушыць стабільнасьць у нашай краіне. Я буду падтрымліваць увесь друк, за выключэньнем тых выданьняў, якія выступаюць супраць урада».*

**(З інтэрвію прэм'ер-міністра газэце «Белорусская нива», 9.06.1992 г.)**

*(пачатак на 6-й стар.)*

«дзяржаўных таямніцаў». У 1993 г. шасьці асобам было адмоўлена ў выезьдзе ў Ізраіль на падставе гэтага палажэньня. Не дазвалялася эміграваць і мужчынам прызыўнога веку, што яшчэ не прайшлі абавязковай вайсковай службы. Патрабаваньне савецкага часу, што беларускія грамадзяне абавязаныя атрымаць перад паездкай за мяжу выязную візу, строга выконвалася ў 1992 г., але 1 студзеня 1993 г. было скасаванае. Будучым эмігрантам і падарожнікам болей не спатрэбіцца запрашэньне ад блізкіх сваякоў. Замест гэтага, ім трэба будзе мець запрашэньне ад любога сваяка ці сябра за мяжой. Значна больш беларусаў змаглі летась зрабіць паездкі за мяжу ў параўнаньні з папярэднімі гадамі, але большасьць зь іх былі або ўрадавыя службоўцы, або бізнэсмэны.

### РАЗЬДЗЕЛ 3.
**Павага палітычных правоў: права грамадзянаў мяняць свой урад.**

Права грамадзянаў мяняць свой урад, хоць і гарантуецца законам, яшчэ не было выпрабаванае ў свабодных выбарах. Існы парлямант быў абраны ў 1990 г. на 5-гадовы тэрмін паводле савецкага выбарчага закона. Галасаваньне праводзіцца патаемна, права голасу маюць усе грамадзяне, якім споўнілася 18 гадоў.

Увесну БНФ арганізаваў масавую кампанію па зборы подпісаў за рэфэрэндум аб правядзеньні новых выбараў. Было сабрана 385,000 афіцыйна пацьверджаных подпісаў. 29 красавіка Цэнтральная выбарчая камісія вынесла на разгляд парляманта пытаньне пра рэфэрэндум, але Вярхоўны Савет пасьпешліва перапыніў сэсію. У кастрычніку, калі сэсія ўзнавіла сваю работу, парлямант адмовіўся прызначыць рэфэрэндум, сьцьвярджаючы, што і Ініцыятыўная група, і Выбарчая камісія парушылі закон аб рэфэрэндуме. Апазыцыя заявіла, што такое рашэньне яшчэ больш падарвала легітымнасьць ураду.

Адкінуўшы прапанаваны рэфэрэндум, Вярхоўны Савет прыняў неабавязвальную рэзалюцыю, у якой абвяшчаюцца ў якасьці прыярытэтных мэтаў прыняцьце ў 1993г. новай Канстытуцыі і правядзеньне ў сакавіку 1994 г. новых выбараў, на год раней, чым прадугледжана існай Канстытуцыяй. Праект новай Канстытуцыі знаходзіцца на разглядзе ў Вярхоўным Савеце. Замежныя спэцыялісты правялі экспэртызу гэтага дакумэнта і выявілі шматлікія неадпаведнасьці ў многіх сфэрах, асабліва ў сфэры грамадзянскіх правоў.

На Беларусі не існуе заканадаўчых абмежаваньняў на ўдзел жанчын у палітыцы і ва ўрадзе. Але сацыяльныя перашкоды для жанчын застаюцца даволі моцныя, і большасьць найвышэйшых пасадаў у кіраўніцтве займаюць мужчыны. Жанчыны займаюць меней за 5% мейсцаў у парляманце і не займаюць ніводнай пасады міністэрскага ўзроўню. Пэўная колькасьць жанчын, аднак, зьяўляецца намесьнікамі міністраў.

### РАЗЬДЗЕЛ 4.
**Адносіны ўраду да міжнародных і недзяржаўных расьсьледаваньняў парушэньняў правоў чалавека.**

Згодна з паведамленьнямі праваахоўных арганізацыяў, пры расьсьледаваньні магчымых парушэньняў правоў чалавека ўрад рэспублікі ставіць бюракратычныя перашкоды і не спрыяе іх дзейнасьці. У кастрычніку ўзьнікла Беларуская ліга правоў чалавека, якая плянуе расьсьледаваць магчымыя парушэньні правоў чалавека і запрашаць міжнародныя праваахоўныя групы на Беларусь з гэтай жа мэтай. Ліга існуе яшчэ не дастаткова доўга, каб істотна паўплываць на паводзіны ўрада. Урад не перашкаджаў паездкам міжнародных праваахоўных групаў на Беларусь і ўнутры яе.

### РАЗЬДЗЕЛ 5.
**Дыскрымінацыя паводле расы, пола, мовы ці сацыяльнага статуса.**

Закон аб грамадзянстве, прыняты Вярхоўным Саветам, дае грамадзянства ўсім асобам, што пастаянна жылі на тэрыторыі рэспублікі 19 кастрычніка 1991 г. Асобы, якія прыязджаюць на Беларусь пасьля гэтай даты і жадаюць стаць грамадзянамі, павінны падаць заяву, ведаць беларускую мову (на ўзроўні, дастатковым для камунікаваньня), пагадзіцца выконваць канстытуцыю і законы, мець законную крыніцу прыбытку і пражыць у краіне 7 гадоў. (Апошняе патрабаваньне не датычыць былых грамадзянаў БССР і тых вайскоўцаў, якія жадаюць прыняць грамадзянства і гатовыя прыняць прысягу на вернасьць Беларусі).

Беларусы складаюць 78% 10-мільённага жыхарства рэспублікі; 13% — расейцы, 4% — палякі, 3% — украінцы, астатнія 2% — летувісы і габрэі. Напружанасьць паміж нацыянальнымі грамадамі нязначная. Беларускай мове быў нададзены статус афіцыйнай, але расейская мова застаецца асноўнай рабочай мовай, прычым большасьць беларусаў дома размаўляе па-расейску. Увядзеньне беларускай мовы як абавязковай мовы навучаньня ў школах адбываецца паступова. Існуе таксама рух за наданьне расейскай мове статуса другой афіцыйнай мовы краіны.

Афіцыйны антысэмітызм узьнік за савецкай уладай. Зарэгістраваны беспрэцэдэнтны выпадак, калі пракурор Беларусі распачаў крымінальную справу супраць адкрыта антысэміцкай газэты за распальваньне міжэтнічнай варожасьці.

На Беларусі не даступныя статыстычныя зьвесткі пра жорсткае абыходжаньне з жанчынамі. Некаторыя нядаўна паўсталыя арганізацыі абароны правоў жанчыны намагаюцца палепшыць дасьведчанасьць грамадзтва ў жаночых пытаньнях. Хатняе ўжываньне сілы супраць жанчын, часта зьвязанае з алькагалізмам, зьяўляецца паважнай праблемай на Беларусі. У дадатак да звычайнай судовай сыстэмы існуюць таксама й так званыя «таварыскія суды», з дапамогай якіх жанчыны могуць мець падтрымку ад сяброў, суседзяў, калегаў для выпраўленьня сытуацыі ў сем'ях.

### РАЗЬДЗЕЛ 6.
**Правы рабочых.**

**а) Права ствараць арганізацыі.**

Незалежны прафсаюзны рух на Беларусі ня выйшаў яшчэ з зародкавай стадыі. Хоць ужо сфармаваліся некалькі паважных незалежных прафсаюзаў, але былая беларуская філія Усесаюзнага Цэнтральнага Савету Прафсаюзаў СССР (цяпер Фэдэрацыя Прафсаюзаў Беларусі) застаецца найбуйнейшым прафсаюзам краіны. Гэты так званы прафсаюз, які налічвае 5 млн. сяброў, ня можа ўважацца за незалежны на практыцы, бо сьледуе ўрадавым загадам.

Права рабочых ствараць і далучацца да прафсаюзаў рэглямэнтуецца Законам аб прафсаюзах, прынятым беларускім Вярхоўным Саветам у красавіку. Закон дае рабочым права ствараць незалежныя прафсаюзы. На практыцы, рабочых часта аўтаматычна ўключаюць у падпарадкаваную дзяржаве Фэдэрацыю прафсаюзаў Беларусі. Лідары незалежнага рабочага руху мяркуюць, што кантроль афіцыйных прафсаюзаў над сацыяльнымі функцыямі, які звычайна зьдзяйсьняецца ўрадам (напрыклад, пэнсійныя фонды), зьяўляецца перашкодай для росту сапраўдных, незалежных прафсаюзаў.

Да незалежных прафсаюзаў належаць: Свабодны Прафсаюз Беларусі (блізу 10000 сяброў), Канфэдэрацыя Працы Беларусі (каля 4000 сяброў), Незалежны Прафсаюз Шахцёраў (3000) і Прафсаюз Авіядыспэтчараў.

У 1992 г. адбылося некалькі страйкаў. Самы значны зь іх адбыўся на калійных капальнях Салігорска ў сакавіку з ініцыятывы Незалежнага Прафсаюза Шахцёраў. Шахцёры баставалі некалькі месяцаў (некаторыя зь іх праводзілі галодны страйк). Шахцёры дамагліся значнага падвышэньня заробкаў і дасягнулі з урадам і адміністрацыяй дамовы пра падзел часткі валютнага прыбытку.

**б) Права на калектыўную арганізацыю і гандаль.**

Гэтае права гарантуецца Існым заканадаўствам, якое захавалася з савецкіх часоў. З тае прычыны, што эканоміка амаль цалкам падпарадкаваная дзяржаве, прафсаюзы звычайна вылучаюць свае патрабаваньні на палітычным узроўні.

Паводле наяўнай інфармацыі права рабочых на арганізацыю было парушанае, калі выканаўчы камітэт менскага гарсавету неаднакроць адмаўляўся дазволіць Беларускай Канфэдэрацыі Працы выкарыстоўваць памяшканьне для правядзеньня прафсаюзных сходаў. У ліпені Канфэдэрацыю аштрафавалі за правядзеньне прафсаюзнага сходу на дварэ.

Адміністрацыі заводаў, паводле паведамленьняў, пагражалі сябрам БКП звальненьнем ды іншымі дыскрымінацыйнымі захадамі. Як паведамлялася, некаторыя сябры незалежнага прафсаюза былі звольненыя з прычыны іх прафсаюзнае дзейнасьці. Напрыклад, Сяргей Трухін, прафсаюзны актывіст 3-га менскага таксапарка, быў звольнены, як кажуць лідары беларускіх прафсаюзаў, пад выдуманым прэтэкстам. Згодна з законам аб прафсаюзах, дыскрымінацыя арганізатараў прафсаюзаў забароненая.

**в) Забарона прымусовае ці абавязковае працы.**

Заканадаўства выразна не забараняе гэтых формаў працы, але няма інфармацыі пра тое, што гэтыя формы выкарыстоўваюцца.

**г) Мінімальны ўзрост пачатку працоўнае дзейнасьці.**

Паводле існых законаў мінімальны ўзрост пачатку працоўнае дзейнасьці — 16 гадоў. У пэўных выпадках, такіх, як сьмерць карміцельца сям'і, можна зьвярнуцца па дазвол на пачатак працоўнае дзейнасьці з 15-гадовага ўзросту. Згодна з наяўнай інфармацыяй, гэты закон эфэктыўна дзейнічае, за ім ажыцьцяўляе нагляд Генэральная Пракуратура.

Вярхоўны Савет усталёўвае памер мінімальнага заробку, які пэрыядычна ўзьнімаецца ў сувязі з інфляцыяй. Але мінімальнага заробку не хапае на падтрыманьне прыстойнага ўзроўню жыцьця. Кодэкс законаў аб працы ўсталёўвае 41-гадзінны працоўны тыдзень і вымагае прынамсі 24 гадзіны адпачынку ў тыдзень. З-за цяжкай эканамічнай сытуацыі шмат рабочых працуюць значна меней 40 гадзін на тыдзень. Часта фабрыкі пасылаюць рабочых у неаплатныя адпачынкі з прычыны нізкага попыту на іх прадукцыю. Закон усталёўвае мінімальныя ўмовы бясьпекі на працоўным мейсцы і здароўя рабочага; аднак гэтыя стандарты часта ігнаруюцца. Цэнтралізаванага і эфэктыўнага мэханізму нагляду за гэтымі нормамі не існуе.

**Пераклаў Віктар ЛУК'ЯНАЎ**

# УСЁ ПРАЙШЛО, МІНУЛА, ЯК І НЕ БЫЛО?





1992 год пачаўся з акцыі "Рэфэрэндум" і дэмантажу помнікаў Марксу й Леніну каля будынка былога ЦК КПБ.
















А яшчэ ў 1992-м:
тушылі пажары,
ладзілі навасельлі
ў згарэлых вёсках...







... спрабавалі зьвесьці канцы з канцамі



... прымалі прысягу




... настаўнікі хадзілі на пляц Незалежнасьці "па каўбасу"



... мы страчвалі паплечнікаў



... сьвяткавалі 1000-годзьдзе Хрысьціянства на Беларусі

Здымкі:
Сяргея Брушко, Яўгена Казюлі, Уладзімера Кармілкіна, Аляксандра Нікалаева.

Сяргей Паўлоўскі
(Вільня)

# Пасьля перамогі абвінавацца становіцца вінаватым

У такой сытуацыі апынулася летувіская Дэмакратычная Партыя Працы — колішняя КПЛ. Пасьля свае трыумфальнае й нечаканае перамогі на выбарах новага парляманту Летувы ДППЛ выглядае вінаватай і ўвесь час апраўдваецца. Маўляў, мы не камуністы, зазірніце ў нашую праграму; многія нашыя кандыдаты ніколі не былі ў кампартыі, тады як некаторыя іх канкурэнты па выбарчых участках — кандыдаты Sajūdis'у — уваходзілі нават у бюро ЦК КПЛ...

Апраўданьні сяброў А.Бразаўскаса й яго самога выкліканыя шырокай кампаніяй, якую пасьля свае паразы на выбарах разгарнулі сябры В.Ландсбергіса Sajūdis праіграў і адразу актывізаваўся, нібы ўспомніў сваю апазыцыйную маладосьць, дастаў колішнія антыкамуністычныя транспаранты і рушыў зь імі па праспэкце Гедыміна. У ковенскім былым Доме афіцэраў стварыўся штаб антыкамуністычнага руху. На Лукішках, на мейсцы, дзе стаяў бронзавы Ільіч, паставілі пудзіла нэабальшавіка... Але ўвогуле кулакамі пасьля бойкі махалі нядоўга. ДППЛ сапраўды «не вінаватая» ў сваёй перамозе.

Дастаткова параўнаць: у колішняй кампартыі Летувы было каля 220 тысяч камуністаў, а сёньня за Партыю Працы галасавала больш за 800 тысяч выбаршчыкаў. Дастаткова згадаць, што якраз Бразаўскас быў першым барацьбітом за адлучэньне КПЛ ад КПСС, Летувы ад СССР, свае партыі — ад камунізму. Зрэшты, мала хто ў Летуве гэтага не разумее. Таму й прагаласавалі за партыю Бразаўскаса, таму й на малалікія дэманстрацыі Sajūdis'а глядзяць адстаронена.

Сытуацыя нічым не нагадвае «рэванш камунізму», чым на Беларусі падбадзёрвае сябе былая партыйная намэнклятура. Партыя Бразаўскаса, якая вырасла з нацыянальнакамуністычных традыцый КПЛ, якая ўдала «ўрасла» ў сабою ж здабытую незалежнасьць і эвалюцыянавала да прывабнае ў вачох народу левацэнтрысцкае палітычнае сілы, — ня мае нічога агульнага з КПБ. За выключэньнем хіба аднаго. І КПЛ і КПБ на разьвітаньне выпусьцілі па кволым нежыцьцяздольным парастку — усё, што засталося ад іхняе лучнасьці зь нябожчыцай КПСС. У Маскве ў глыбокім падпольлі сядзіць таварыш Буракявічус, у Менску раз-пораз чуваць пра таварыша Чыкіна. Менавіта ў гэтых «спадчынных» прыкметах, якія так нагадваюць ускладненьне пасьля хваробы, КПЛ і КПБ — ідэнтычныя.

Але, у адрозьненьне ад КПЛ, КПБ не пакінула больш нічога. Нічога станоўчага. Яна ня выжыла ні ў якой новай форме. А гэта наводзіць на думку, што яе па сутнасьці і не было. Не было такой самастойнай партыі, не было на Беларусі традыцый нацыяналь-камунізму. КПБ арганічна ўпісвалася ў шэраг абкамаў КПСС.

Між іншым, гэта адна з прычынаў, якія тлумачаць слабасьць БНФ у параўнаньні з Sajūdis'ам. Але тут ужо аналёгіі — дарэчы. І пэўны досьвед апазыцыйнага Sajūdis'у, які так «з ходу» не падняў справу нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва ды прайграў выбары, бо нават будучы «ля стырна» заставаўся па сутнасьці апазыцыйным, — гэты досьвед дае падставы для развагаў. Калі абвінавацца перамагае, ён сам становіцца вінаватым.

Адам Міхнік,
галоўны рэдактар «Gazety Wyborczej» (Польшча)

# ЦІ ПАГРАЖАЕ НАМ ВЯРТАНЬНЕ КАМУНІЗМУ?

**Нас палохаюць. Нас палохаюць людзі і здарэньні. Палохаюць нас таксама і факты. У Сербіі перамог камуніст Мілошэвіч, на Украіне — Краўчук, у Славакіі — Мэч'яр, у Румыніі — Іліеску. І нарэшце — вынікі летувіскіх выбараў. Параза Sajūdis'а, посьпех посткамуністычнае фармацыі. Няўжо зноў камунізм стукае ў нашыя дзьверы?**

**Слободан Мілошэвіч** перамог на сербскіх выбарах таму, што здолеў ператварыць інтэрнацыяналісцкую рыторыку камунізму ў вялікасербскую нацыяналістычную дэмагогію. Мілошэвіч рэпрэзэнтуе камунізм з ксэнафобскім абліччам, а ягоная шавіністычная рыторыка — гэта прылада для мабілізацыі масаў вакол вялікасербскай экспансіі. Як ён дасягнуў такога посьпеху? Адбылося гэта ў выніку трансфармацыі камуністычнай дыктатуры, якая абгрунтоўвалася лёзунгамі сацыяльнай справядлівасьці і інтэрнацыяналізму, у рэжым, заснаваны на этнічнай нянавісьці. Іншымі словамі, сіла Мілошэвіча не ў таталітарным камунізме, якога ў Сербіі няма, але ў вялікасербскім шавінізме, які, на жаль, вядзе рэй у палітычным жыцьці краіны. Аднак нават у Сербіі пакуль яшчэ не зьліквідаваны свабода прэсы і апазыцыйныя партыі.

**Леанід Краўчук** дасягнуў посьпеху дзякуючы сваёй умелай незалежніцкай палітыцы, а таксама падтрымцы, якую ён атрымаў ад вельмі шырокіх колаў украінскага грамадзтва, якое не жадае ні маскоўскае дамінацыі, ні антыкамуністычнае чысткі. Цяпер галоўная праблема на Украіне — гэта не камуністычная дыктатура, бо ў гэтай дзяржаве пануе свабода. Галоўная ўкраінская праблема зараз — гэта спрэчка пра кірунак і тэмп перабудовы палітычнай сыстэмы, а таксама пра тое, хто стане ля стырна ўкраінскага дзяржаўнага карабля.

**Іліеску** стаў прэзыдэнтам Румыніі не таму, што румынскія грамадзяне засумавалі па камунізме. Наадварот: настальгічныя камуністы прадстаўлены на румынскай палітычнай арэне асобнай групай. Іліеску, стары партыйны дзеяч, які ўвайшоў у канфлікт з Чаушэску, зьяўляецца выразьнікам румынскай мары пра стабільнасьць і веру ў патэрналісцкую ўладу. Яго перамога на выбарах не азначае вяртаньне да камунізму, бо нічога ня сьведчыць пра тое, што ў Румыніі сёньня абмяжоўваюцца асноўныя грамадзкія свабоды: шматпартыйная сыстэма, адкрытыя граніцы, свабода друку.

**Мэч'яра** — трыумфатара славацкіх выбараў — апанэнты даволі часта абвінавачвалі ў сувязях з камуністамі. Ягоны посьпех вынікае з умелага выкарыстаньня нацыяналістычнай (антычэшскай і антывугорскай) рыторыкі і крытыкі хуткіх рынкавых рэформаў, а не з заклікаў вярнуцца да старога рэжыму.

**Ну і нарэшце Летува.** Я вельмі высока цаню Вітаўтаса Ландсбергіса і ведаю, як шмат ён зрабіў ня толькі для летувіскага народу, але й для ўсіх народаў, што вызваляюцца з абдымкаў савецкае імпэрыі. І ўсё ж параза Sajūdis'а — якая б драматычная яна ні была для яго дзеячоў — не азначае рэканструкцыі ані сыстэмы камуністычнае дыктатуры, ані маскоўскага дыктату. Перамагла вера ў іншую філязофію зьменаў дзяржаўнага ладу, а таксама страх перад масавай дэкамунізацыяй, ахвярамі якой у Літве сталі б дзесяткі тысячаў людзей.

Ёсьць і яшчэ адно тлумачэньне. Вельмі часта перамагаюць на выбарах тыя, хто абяцае стабілізацыю або хуткі шлях да дабрабыту. Маладыя посткамуністычныя дэмакратыі бываюць падатлівыя на выбарчыя маніпуляцыі і шпаркую зьмену настрояў, выкліканую расчараваньнем, што абяцаная манна зь неба ня падае. Прайграюць часта тыя, што ня могуць знайсьці мовы, зразумелай для калектыўнай сьвядомасьці. Тады ўжо неістотна, што гэта менавіта яны выступалі з аптымальнай праграмай пабудовы дэмакратычнага грамадзтва і рынкавай гаспадаркі. Можна аб гэтым шкадаваць, але ня варта кожную такую паразу кваліфікаваць як перамогу камунізму. Рэч у тым, што камунізм прайграў раз і назаўсёды, і як праект грамадзкага ладу, і як палітычная сіла. Нішто ня сьведчыць пра тое, што ён здольны адрадзіцца.

## Дэкамунізацыя

Існуюць два меркаваньні наконт дэкамунізацыі.

Адны думаюць пра дэкамунізацыю людзей, іншыя — пра дэкамунізацыю сыстэмы.

Першыя разумеюць дэкамунізацыю як вялікую чыстку і замену дзяржаўных функцыянэраў, што да нядаўняга часу насілі чырвоныя партбілеты, на новых урадоўцаў, зьвязаных з асяродзьдзем антыкамуністычнай апазыцыі. Такая дэкамунізацыя прывядзе перадусім да замены адной намэнклятуры другою, што можа суправаджацца помстай у дачыненьні да былых перасьледнікаў ці супрацоўнікаў. Для звычайных людзей гэта значыць проста «камунізм без камуністаў».

Другое бачаньне дэкамунізацыі прадугледжвае зьмену структураў таталітарнае дзяржавы, прынцыпаў яе функцыянаваньня, мэтадаў падбору кадраў для апарата ўлады. Зразумела, што пры прыёме на працу вырашальным будзе не палітычная скіраванасьць, а прафэсійнасьць і ляяльнасьць да дэмакратычнага парадку.

Вядома ж, злачынцаў пакараць трэба. Але ў дачыненьні да ўсіх іншых павінны стасавацца звычайныя прынцыпы дэмакратыі, г.зн. роўнасьць перад законам і асновы рынкавай эканомікі. І тады сьведчаньнем якасьці і верагоднасьці ня можа ўжо быць ні фотаздымак зь Лехам Валэнсам, ні чырвоны партбілет, ні значак «Салідарнасьці», ані прыметнік «сацыялістычны» ў назве палітычнай арганізацыі, ані прыметнік «каталіцкі» ў назве палітычнай партыі.

Зараз змаганьне вядзецца за асновы новай дзяржаўнай будовы. Ці будзе яна антыкамуністычная, ці дэмакратычная? Ці галоўным прынцыпам новай дзяржавы будзе роўнасьць грамадзян перад законам, ці ідэалягічная правільнасьць паводле крытэрыяў новых антыкамуністычных ідэалёгій, а значыць і дыскрымінацыя пэўнай катэгорыі грамадзян?

## Супрацоў «старой сыстэмы»

Ці існуе сёньня супрацоў «старога ладу»? Ці маюць яго прыхільнікі асаблівыя зацікаўленьні, супярэчныя інтарэсам новай дэмакратычнай дзяржавы?

Так. Людзі «старога ладу» маюць свае агульныя зацікаўленьні. Шмат ёсьць такіх, што кепска сябе адчуваюць у дэмакратычнай дзяржаве і настальгічна згадваюць старыя парадкі, страчаную ўладу, намэнклятурныя прывілеі. Шмат ёсьць такіх, што разьдзімаюць канфлікты, распальваюць варожасьць між людзьмі, стараючыся адпомсьціць за сваю паразу. Але ёсьць шмат і такіх людзей, якія, прынамсі, ня прагнуць вяртаньня таталітарнай дыктатуры. Гэтыя людзі хочуць жыць у новай дзяржаве нармальна і паводле тых самых правілаў, што і ўсе астатнія грамадзяне. Аднак калі на іх ўвесь час будуць нападаць, таўраваць, ставіць да ганебнага слупа — яны будуць бараніцца, і было б дзіўна, калі б яны гэтага не рабілі. Яны ня хочуць, каб у іх канфіскоўвалі кватэры ці выганялі з працы паводле ідэалягічных крытэрыяў; ня хочуць, каб іх называлі злодзеямі, злачынцамі або здраднікамі; ня хочуць быць грамадзянамі другой катэгорыі.

Мяне гэта ня дзівіць. Я сам некалі належаў да людзей дыскрымінаваных паводле палітычных крытэрыяў і нікому б не пажадаў такой долі. Людзі, якім штосьці пагражае, заўсёды гуртуюцца перад абліччам небясьпекі і на ўдар адказваюць ударам. Так можа здарыцца і цяпер.

Зараз замест мовы палітычнай палемікі пачынае выкарыстоўвацца мова грамадзянскае вайны. Штораз чуваць усё вастрэйшыя фармулёўкі накшталт «замежная агентура», «прадажныя элемэнты». Уводзіцца ў дзеяньне лёгіка «халоднай грамадзянскай вайны», нейкая кашмарная «ўнутраная Югаславія». Перад палітычнай элітай, перад усімі намі стаіць выбар — ці мы хочам весьці далей гэтую вайну, ці яе скончыць і будаваць супольна дэмакратычны лад як паўнапраўныя грамадзяне дэмакратычнай дзяржавы.

## Ці могуць камуністы вярнуцца да ўлады?

Так, могуць — калі гэтага пажадаюць выбаршчыкі. Але і ў такім выпадку камуністы ня будуць здольныя рэкамунізаваць дзяржаву. Ужо ніколі ня вернецца кіраўнічая роля кампартыі, аднапартыйная сыстэма, цэнзура, зачыненыя межы, тэрор палітычнае паліцыі. Пазбаўленыя падтрымкі савецкай арміі, камуністы ня ў стане — нават калі б і хацелі — адбудаваць сыстэму камуністычнай дыктатуры.

Ключ да пытаньня пра будучыню дэмакратычнага ладу ляжыць у сфэры пераўтварэньня сыстэмы ўласнасьці. Бо незалежна ад таго, ці кіраваць дзяржавай будуць камуністы, ці антыкамуністы — калі 80% прадпрыемстваў застануцца ўласнасьцю дзяржавы, то ў сілу ўнутранай лёгікі такая сытуацыя будзе падштурхоўваць да аўтакратычных разьвязаньняў. Ніхто яшчэ ня бачыў стабільнай дэмакратыі ў спалучэньні з цалкам адзяржаўленай эканомікай.

## Ці магчымая параза дэмакратыі і вяртаньне дыктатуры?

Так. Гэта магчыма, калі ў дзяржаве ня будзе ніякай згоды, калі і наверсе і ўнізе будзе ісьці вайна, вайна кожнага з кожным, у канцы якой — хаос. А хаос, як вядома, рэфармаваць немажліва. З хаосу ёсьць выйсьце толькі праз дыктатуру. Але гэта ўжо ня будзе паўторам камунізму, хоць учарашнія камуністы могуць разам зь іншымі ўвесьці такую дыктатуру. Аднак гэта будзе ўжо нейкі новы тып дыктатуры. Гэта будзе дыктатура кааліцыі, якая пад папулісцкімі лёзунгамі аб'яднае антыкамуністычных і посткамуністычных ворагаў дэмакратыі. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя. Гісторыя антыкамунізму з бальшавіцкім абліччам.

«Gazeta Wyborcza»
(Друкуецца са скарачэньнямі)

**Міжнародная асацыяцыя**
**"Бясьпека прадпрымальніцтва і асобы"**

Беларускі
Інфармацыйны цэнтр




# КОНІНФОРМ
**прапануе**

**Паслугі прафэсіяналаў**

- збор інфармацыі для дзелавых перамоваў
- выяўленьне некрэдытаздольных або ненадзейных дзелавых партнэраў
- ахова і суправаджэньне грузаў
- інфармацыйна-тэхнічнае, ахоўнае і сэрвіснае забесьпячэньне выставаў, кірмашоў, дзелавых сустрэчаў
- дэтэктыўная дзейнасьць і ахова фізычных асобаў
- маркетынг беларускага рынка і рынкаў краін СНД і Балтыі

**Сродкі бясьпекі**

- спэцыяльныя радыёсродкі
- спэцыяльная аптычная і відэатэхніка
- спэцыяльныя сродкі абароны
- сродкі абароны памяшканьняў
- банкаўскія ахоўныя сыстэмы
- апаратныя і праграмныя сродкі абароны інфармацыі
- сыстэмы абвешчаньня

*Калі вас зацікавілі нашыя прапановы*

**МЫ ГАТОВЫЯ ВЫКАНАЦЬ ЛЮБУЮ КАНКРЭТНУЮ ЗАМОВУ**

Наш тэлефон **(0172) 20-53-31**
**(0172) 20-96-80**
факс **(0172) 20-50-74**
тэлетайп **25-25-29 *Пирс***

# БЯСЬПЕКА ДАРАЖЭЙ ЗА ГРОШЫ!

